РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 42 (7855) Заснавана ў красавіку 1931 года СУБОТА, 3 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

**Актуальна!**

## За кармы, як за хлеб

У мінулую суботу ў зале пасяджэнняў райвыканкама адбылася нарада, у якой прынялі ўдзел адказныя работнікі райвыканкама, кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў горада, старшыні калгасаў. Вёў нараду старшыня раённага выканаўчага камітэта Міхаіл Барысаў. Разгледжаны актуальныя пытанні сельскагаспадарчай вытворчасці.

Спачатку Міхаіл Барысаў, пад апладысменты прысутных, уручыў прэміі пераможцам раённага спаборніцтва за падрыхтоўку тэхнікі да палявых работ, своечасовае і якаснае правядзенне веснавой сяўбы ў калгасах. Заахвочаны таксама калектывы шэфствуючых арганізацый. Кіраўнік раёна зазначыў, што вынікі спаборніцтва будуць надалей падводзіцца па заканчэнні ўсіх палявых работ.

Цяпер наступіў не менш адказны перыяд – нарыхтоўка кармоў. Большасць гаспадарак ужо ўключылася ў важную сельскагаспадарчую кампанію. Надвор'е спрыяе для нарыхтоўкі сена, і такое вакно ў прыродзе трэба выкарыстоўваць. Ставіцца задача нарыхтоўваць кармы на заліўных лугах рэк. Маюць такую магчымасць многія калгасы, асабліва "Радзіма", "Расія", "Новы быт", "Дуброва" і іншыя. Заданні па нарыхтоўцы кармоў атрымалі шэфствуючыя арганізацыі горада. Словам, мінулы год, калі з-за неспрыяльных умоў надвор'я травяністых кармоў было нарыхтавана недастаткова, паўтарыцца не павінен. У калгасы паступіла больш як 40 адзінак трактароў, 34 з якіх выдзелены дзяржавай бясплатна, такую акалічнасць трэба выкарыстаць для своечасовай і якаснай нарыхтоўкі кармоў.

Не менш важнай задачай застаецца павышэнне надояў малака, прычым усе магчымасці выйсці на ўзровень мінулага года ў гаспадарках ёсць. Былі заслуханы тлумачэнні старшынь калгасаў "Радзіма" – Анатоля Краўчанкі, "Праўда" – Вячаслава Арэхава, імя Карла Маркса – Івана Агеева, "Новае жыццё" – Аляксандра Амельчанкі, "Дуброва" – Уладзіміра Казлова, "Парыжская камуна" – Аляксандра Міхеенкі. У прысутнасці ўсіх удзельнікаў нарады яны паабяцалі зняць "мінус" па надоях малака на працягу 3-5 дзён.

Першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў спыніўся на арганізацыі касьбы траў. На сенажаці касілкі трэба выводзіць не пазней 5 гадзін 30 мінут раніцы. Як і ў перыяд веснавых работ, калі раён завяршыў сяўбу першым у вобласці, павінна быць улічана ўсё да драбніц. Папярэдне, перад падрыхтоўкай да сяўбы азімых будзе праведзен раённы конкурс аратых. Віталь Грышанаў гаварыў таксама аб павышэнні якасці малака, выплаце сельгасвытворцам заработнай платы (9 гаспадарак яшчэ не разлічыліся за студзень), захаванасці тэхнікі, якая часам разукамплектоўваецца.

Тут жа ў зале была праведзена абарона мерапрыемстваў па нарыхтоўцы кармоў спецыялістамі калгаса "Дуброва". Галоўны эканаміст Тамара Бясцэнная паведаміла, што з 973-х гектараў шматгадовых траў для нарыхтоўкі сена плануецца выкарыстаць 750 гектараў. 150 тон сена будзе нарыхтавана ўручную на лугах і няўдобіцах. Адначасова будзе весціся нарыхтоўка сена для кароў прыватнага сектара. Створана камісія па захаванню тэхналогіі і якасці нарыхтоўваемых кармоў. Апаратам спецыялістаў сябе матэрыяльная зацікаўленасць механізатараў, калі на зароблены рубель выдаваўся яшчэ адзін у выглядзе прэміі. Пры ўмове закладкі сенажу ў траншэю за 3-4 дні, корманарыхтоўчаму атраду выдаецца 10 тысяч рублёў. Нарыхтаваныя кармы ўзважваюцца.

Галоўны інжынер гэтага ж калгаса Міхаіл Кірыловіч далажыў аб стварэнні атрадаў па нарыхтоўцы сенажу, сена, сіласу. Яны забяспечаны тэхнікай. За 17 дзён плануецца нарыхтаваць 1400 тон сенажу, за такі ж перыяд – 490 тон сена. На нарыхтоўку неабходнай колькасці сіласу – 1400 тон – спатрэбіцца 6 дзён, хаця пасевы кукурузы расшыраны ў 2,5 раза. Каб вытрымліваўся рытм работ, ёсць страхавачныя трактары, трамбоўка масы сенажу прадугледжана ў 2 змены, створан невялікі запас запчастак.

Аб фінансавым становішчы, якое працягвае быць складаным, гаварыў старшыня калгаса Уладзімір Казлоў.

Кіраўнікі гаспадарак непасрэдна азнаёміліся з арганізацыяй нарыхтоўкі кармоў у калгасе "Парыжская камуна".

### ЗВЕСТКІ

***аб надоях малака ў гаспадарках раёна па стану на 1 чэрвеня 2000 г.***

*Першая калонка – назвы калгасаў, другая – надоена ў 2000 г. (кг), трэцяя – атрымана ў 1999 г., чацвертая – надоена ад каровы ў 2000 г. (кг), пятая – атрымана ў 1999 г.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| "Новае жыццё" | 6520 | 6437 | 12,1 | 12,1 |
| "Прагрэс" | 5338 | 5125 | 9,6 | 9,3 |
| імя К. Маркса | 5301 | 5206 | 6,9 | 6,8 |
| "Расія" | 4900 | 5044 | 7,9 | 7,9 |
| "Пар. камуна" | 4260 | 4800 | 11,8 | 13,7 |
| "Бароньki" | 3610 | 3608 | 10,6 | 10,6 |
| "Новы быт" | 3485 | 3111 | 10,5 | 10,3 |
| "Лен. шлях" | 3152 | 3163 | 8,7 | 8,7 |
| "Радзіма" | 2960 | 3000 | 9,2 | 9,6 |
| "Кранштат" | 2835 | 2980 | 7,1 | 7,0 |
| "Смолькі" | 2768 | 2850 | 8,7 | 8,9 |
| імя Калініна | 2740 | 2475 | 8,1 | 7,3 |
| "Праўда" | 2460 | 2460 | 8,8 | 8,8 |
| "Дуброва" | 2339 | 3428 | 9,5 | 9.5 |
| "Забычанне" | 1695 | 2170 | 7,6 | 7,6 |
| **ПА РАЁНУ:** | **54363** | **55857** | **9,04** | **9,06** |



**Пасля заканчэння школы Сяргей Казакоў застаўся працаваць у родным калгасе "Дуброва". На трактары МТЗ-80, які даверылі маладому механізатару, ён выконваў розныя работы заўсёды сумленна, якасна. У час пасяўной кампаніі займаўся раскідваннем мінеральных угнаенняў. Стараўся. У гаспадарцы пачалася нарыхтоўка кармоў для грамадскай жывёлы. Сяргей прычапіў да трактара касілку і ўключыўся ў работу. Варта адзначыць, што працуе зараз ён на трактары МТЗ-892, які прыбыў у калгас як падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі. Трактар даверылі Казакову.**

**На здымку: Сяргей КАЗАКОЎ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Неарганізаванасць на фермах...

**У РАЙСЕЛЬГАСХАРЧЫ**

Калегія ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання разгледзела пытанне аб арганізацыі летне-пашавага ўтрымання жывёлы і вытворчасці малака ў калгасах раёна. Былі запрошаны старшыні і галоўныя заатэхнікі шэрагу гаспадарак, кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў і арганізацый. Вёў пасяджэнне калегіі першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік райсельгасхарчу Віталь Грышанаў.

Інфармацыю аб стане спраў на фермах зрабіў першы намеснік начальніка райсельгасупраўлення Віталь Нямёнкін. Як адзначалася, у групе калгасаў раёна допускаюцца недахопы у рабоце па ўзнаўленню статка, кармленню і догляду жывёлы. Аб гэтым сведчаць вынікі праведзеных напярэдадні праверак кампетэнтнымі спецыялістамі.

Напрыклад, на першы погляд, у калгасе "Кранштат" тэхналогія вытворчасці не парушаецца. Пасьба кароў вядзецца сістэмна, з выкарыстаннем электрапастухоў, кругласутачна. Аднак, на пашы, што за вёскай Мурaвілле, толькі дзікарослыя травы, няма тут бабовых. Не праводзіцца скошванне і баранаванне скормленых участкаў.

Паша аддалена ад фермы на адлегласці 5 кіламетраў, таму на перагон жывёлы траціцца шмат часу. Па гэтай жа прычыне кароў дояць два разы – раніцай і вечарам, а не тры, як трэба. Кіраўніцтва гаспадаркі не арганізавала даенне з дапамогай пераcоўнай установкі на пашы.

На дзень праверкі ў калгасе надоена 2359 кілаграмаў малака. Атрымана яго ад каровы па 5,9 кілаграма. Таварнасць прадукцыі склала 67 працэнтаў.

У гаспадарцы па розных прычынах выбыла значная колькасць малочнай жывёлы. Сёлета спецыялістамі абследавана больш як 300 галоў яе. Выяўлена хворых 118 кароў, большасць з якіх вылечана і асемянёна. Астатнія не пакрыты. За 4 месяцы года атрымана 123 цяляці, або на 44 менш, чым чакалася.

Недаравальна, што каровы ў загоне топяцца ў гразі. Ён не ачышчаны, не праведзена падсыпка. Словам, загон не падрыхтаваны для прагулкі кароў.

Вельмі нізкая прадукцыйнасць дойнага статка ў калгасе "Ленінскі шлях". За мінулы год атрымана ад каровы па 1939 кілаграмаў малака. Між іншым, генетычны патэнцыял удвая вышэйшы, але, як бачна, недастаткова выкарыстоўваецца. У апошнія дні мая дзённы надой малака ад каровы быў на ўзроўні 8 кілаграмаў, валавы – прыкладна 3 тоны. Таварнасць прадукцыі не дацягнула і да 40 працэнтаў. Некалькі гадоў таму калгас меў куды лепшыя паказчыкі вытворчасці.

Кіраўніцтва калгаса свядома вядзе лінію на змяншэнне колькасці жывёлы. Не дачакаўшы ацёлаў цялушак, тут здаюць дойных кароў. Вось і атрымалася, што па форме 24 лічыцца 363 галавы, а фактычна ёсць толькі 309 галоў. Каровамі называюць чамусьці 56 нецеляў. Гэта грубае парушэнне заатэхнічнага і бухгалтарскага ўліку.

За чатыры месяцы года ў гаспадарцы атрымана 179 цялят, замест 222, як чакалася. На 17 працэнтаў менш, чым летась, злучана кароў і цялушак. Нягледзячы на забарону, калгас працягвае здаваць малаважкую жывёлу. У выніку недаатрымлівае грашовыя сродкі і нясе страты.

Гаспадарка мае рэальныя магчымасці павысіць прадукцыйнасць дойнага статка за кошт трохразовага даення кароў, прымянення летніх перасоўных установак. Але яны не выкарыстоўваюцца. Дойны статак Валаськаўнянскай фермы пасецца разам з быкамі на беднай пашы. Каровы ў Нізках утрымліваюць ноччу для адводу вачэй на пустыры, непадалёку ад фермы.

Некаторыя патрабаванні да тэхналогіі захоўваюцца ў калгасе "Забычанне". Усе два гурты кароў пасуцца круглaсутачна, з прымяненнем электрапастухоў. Падвозяцца соль і вада. Але гэтыя меры малаэфектыўныя. Травастой слабы, пераважаюць злакавыя травы (адуванчык). Догляд пашы не наладжаны. Яна не падкормлена мінеральнымі ўгнаеннямі. Не выпадкова надоі малака ў самы спрыяльны перыяд не радуюць.

Скажам, 24 мая на дзвюх фермах – Крупнянскай і Негінскай – атрымана 1226 кілаграмаў малака. Гэта на 724 кілаграмы менш, чым на гэту дату летась. Ад каровы ў той дзень надоена 5,5 кілаграма, супраць 6,8 — у мінулым годзе.

Дойны статак у калгасе значна скарочаны. Прычым, здадзены каровы чацвёртай, пятай і шостай лактацый з добрым патэнцыялам. Статак абноўлены на 42 працэнты. Аднак з-за бяскорміцы каровы выйшлі з зімы схуднелымі і зараз марудна "набіраюць" прадуктыўнасць. З году ў год ацёлы "ссоўваюцца" на больш позні час. Зараз у статку яшчэ 81 сухастойная карова.

Нямала недаробкаў выяўлена ў калгасе "Бароньki". У асноўным недабор прадукцыі дапускаецца на Бароньскаўскай ферме, дзе ўтрымліваецца больш як 230 кароў. Дзённы валавы надой малака тут складае 1535 кілаграмаў (у мінулым годзе было 2016). Скарачэнне – 24 працэнты. Каровы даюць па 6,6 кілаграма малака. Мінус у параўнанні з паказчыкам 1999 года – 2 кілаграмы.

Прадукцыя недабіраецца ў сувязі з надобрасумленнымі адносінамі даяркак да сваіх абавязкаў. На ферме вялікая цякучасць кадраў. Хаця даенне кароў трохразовае, а пасьба круглaсутачная, належнай колькасці малака не ўдаецца атрымаць. Праўда, і травастой на пашы нездавальняючы.

Даяркі Паньбудзянскай фермы надойваюць у дзень па 1228 кілаграмаў малака, што на 154 кілаграмы больш, чым летась. Вынікі маглі быць значна лепшымі. Ды вось не арганізавана начная пасьба кароў. Паша нездавальняючая.

Не ўсе пытанні ўзнаўлення статка вырашаюцца як след. Выхад цялят на 100 кароў складае ўсяго 39 галоў. Сёлета злучана і асемянёна менш кароў і цялушак, чым у мінулым годзе.

Недастатковы кантроль за работай ферм з боку спецыялістаў гаспадаркі.

На калегіі прыводзіліся і іншыя негатыўныя факты. Заслуханы тлумачэнні кіраўнікоў названых вышэй калгасаў "Кранштат" Аляксандра Нікалаенкі, "Ленінскі шлях" – Мікалая Таўпекі, "Забычанне" – Рыгора Чэпікава, "Бароньki" – Андрэя Піскунова. Ім дадзены тэрміны для неадкладнага ўхілення наяўных парушэнняў у вядзенні жывёлагадоўлі, забеспячэння прырoсту прадукцыі.

У РАЙВЫКАНКАМЕ

# Падрыхтоўка да ацяпляльнага сезону

Раённы выканаўчы камітэт на чарговым пасяджэнні, якое вёў старшыня райвыканкама М. Р. Барысаў, разгледзеў пытанне аб стане і мерах па падрыхтоўцы жыллёва-камунальнай гаспадаркі да работы ў асенне-зімовы перыяд 2000-2001 года.

Заслуханы інфармацыя намесніка старшыні райвыканкама М. Ф. Чэпікава, справаздачы дырэктараў вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі П. А. Шаўцова і сельскага жыллёва-камунальнага камбіната М. М. Мамонава.

Адзначалася, што ў ацяпляльны перыяд 1999-2000 гадоў камунальным прадпрыемствам удалося ў асноўным выканаць планавыя мерапрыемствы, якія дазволілі забяспечыць дастаткова стабільнае функцыянiраванне сістэм жыццезабеспячэння насельніцтва і нават палепшыць цеплазабеспячэнне жылога фонду горада і пасёлкаў. Разам з тым, несвоечасовая і няякасная падрыхтоўка дома № 37 мікраараёна “Маладзёжны” да зімы выклікала справядлівае нараканне жыльцоў гэтага дома. Толькі пасля замены ўчастка ўнутрыдомнай цеплaсеткі ўдалося палепшыць цеплазабеспячэнне. Маюць месца выпадкі нездавальняючай работы дыспетчарскай службы пры арганізацыі работ па ўхіленню аварый на аб'ектах, не заўсёды адпавядае патрабаванням работа па забеспячэнню захаванасці жылога фонду, узрастае колькасць жылых дамоў, якія патрабуюць правядзення капітальнага рамонту.

З-за недастатковага фінансавання намнога марудней у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ідзе падрыхтоўка аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі да работы ў асенне-зімовы перыяд. РВА ЖКГ распрацаваны мерапрыемствы па падрыхтоўцы сваіх аб'ектаў. Для якаснага правядзення перадзімовай падрыхтоўкі кацельнай гаспадаркі неабходна 71 мільён рублёў. Упраўленне жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама выдзяляе 1 мільён на набыццё катлоў і 53 мільёны на закупку паліва. Дадаткова неабходна вышукваць 17 мільёнаў рублёў.

На балансе РВА ЖКГ знаходзяцца цеплaсеткі працягласцю 19,4 кіламетра. З іх 7,5 кіламетра поўнасцю з'амартызаваны. РВА ЖКГ плануе правесці рамонт 600 метраў цеплaсетак, выканаць цеплаізаляцыю 300 метраў трубапровадаў, устанавіць 4 элеватарныя вузлы і 5 прыбораў уліку цяпла на ЦТП, правесці выпрабаванні 19,4 кіламетра цеплaсетак.

На балансе РВА ЖКГ знаходзіцца жылы фонд, які складаецца з 95 дамоў. У ім да зімы плануецца выканаць рад мерапрыемстваў.

Сельскі жыллёва-камунальны камбінат абслугоўвае 13 кацельняў раёна, якія знаходзяцца на вялікай адлегласці ад базы. Складанасць у абслугоўванні гэтых аб'ектаў у тым, што не абнаўляецца аўтатрактарны парк прадпрыемства, зношанасць якога складае больш як 80 працэнтаў. Для падрыхтоўкі да зімы кацельнай гаспадаркі СЖКК запланавана: правесці рамонт 21 катла, замяніць 4 катлы, выканаць хімічную прамыўку 30 катлоў, устанавіць 4 прыборы ўліку цяпла, замяніць чатыры сеткавыя і 4 мазутныя помпы, нарыхтаваць 2,8 тысячы кубічных метраў дроў.

На кацельні пасёлка Сялецкае ідзе рэканструкцыя з пераводам яе на спальванне мазуту. У цяперашні час на кацельні ўстаноўлен і гатовы да работы толькі 1 кацёл, а 2 катлы пастаўлены на падмуркі, таксама ўстаноўлена ёмістасць пад мазут. Заказчыкам на аб'екце з'яўляецца ўпраўленне інвестыцый і капітальнага будаўніцтва райвыканкама. Рэканструкцыя аб'екта вядзецца вельмі марудна, у сувязі з недастатковым фінансаваннем.

На пасёлку Шарэйкі ўчасткі цеплатрасы заліваюцца грунтовымі і талымі водамі, у выніку чаго на кацельні спальваецца лішняе паліва і недаацяпляецца пасёлак. Для вынасу цеплатрасы на паверхню зямлі неабходна 12,8 мільёна рублёў. Усяго для падрыхтоўкі кацельнай і цеплавой гаспадарак неабходна 118,3 мільёна рублёў. Для гэтых мэт закладзены рамонтны фонд 50,82 мільёна рублёў. Аднак гэтых сродкаў недастаткова.

Для падрыхтоўкі ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Водаканал" да работы ў асенне-зімовых умовах створан рамонтны фонд 13,8 мільёна рублёў. Прадпрыемствам распрацаваны рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да зімы, але сродкаў для іх правядзення недастаткова. Так, неабходна правесці бягучы рамонт водаправодных сетак па вуліцах Ленінская і Інтэрнацыянальная з частковай заменай запорнай арматуры, бягучы рамонт 120 водаправодных калодзежаў, бягучы рамонт і афарбоўку водазаборных калонак з іх частковай заменай і бягучы рамонт станцыі ачысткі сцёкаў. Пры будаўніцтве мікраараёна "Маладзёжны" будаўнічымі арганізацыямі былі дапушчаны адхіленні ад праекта пракладкі водаправодных сетак і замест поліэтыленавых труб былі пракладзены стальныя літыя трубы, якія падвяргаліся моцнай карозіі і патрабуюць поўнай замены.

Прадпрыемству неабходна матэрыяльная дапамога ў капітальным рамонце 1,7 кіламетра водаправоднай сеткі мікраараёна "Маладзёжны" на суму 34,1 мільёна рублёў. Трэба правесці капітальны рамонт памяшканняў водазабору "Лясны" і адміністрацыйна-вытворчай базы прадпрыемства на суму 1,9 мільёна рублёў. Патрабуюць замены глыбінныя помпы на станцыі 1-га пад'ёму, свідравінах пасёлкаў Шарэйкі, Тупічына, Белая Дуброва, Крапіўня на суму 1 мільён рублёў, а таксама замена помпаў у пасёлку Муравілле на суму 1 мільён рублёў. Для аднаўлення водапапорнай вежы пасёлка Шарэйкі і хлaратарнай устаноўкі на водазаборы "Лясны" прадпрыемству неабходны дадатковыя сродкі, згодна праектна-каштарыснай дакументацыі.

Вядзецца работа па падрыхтоўцы да ацяпляльнага перыяду ўстаноў ахова здароўя, адукацыі і культуры.

Распрацаваны мерапрыемствы па падрыхтоўцы кацельні і цеплaсетак да ацяпляльнага сезону Беларускім цэментным заводам. На сённяшні дзень ужо выканана рэвізія засавак на цеплaсетцы завода і заменены 3 засаўкі на цеплaсетках горада.

Раённы выканаўчы камітэт прыняў да ведама справаздачы дырэктараў вытворчага аб'яднання ЖКГ П. А. Шаўцова і сельскага жыллёва-камунальнага камбіната М. М. Мамонава аб ходзе падрыхтоўкі да зімы. Кіраўнікі абодвух калектываў абавязаны прыняць вычарпальныя меры па безумоўнаму выкананню мерапрыемстваў ва ўстаноўленыя тэрміны. Асаблівую ўвагу ўдзяліць падрыхтоўцы аб'ектаў цеплаэнергетыкі, жылога фонду, водазабеспячэння і каналізацыі. Да пачатку ацяпляльнага сезона забяспечыць выкананне заданняў па капітальнаму рамонту жылфонда, стварэнню запасаў мазута, вугалю і дроў у запланаваных аб'ёмах. Прыняць вычарпальныя меры па забеспячэнню зніжэння сум запазычанасці за камунальныя паслугі прадпрыемстваў, арганізацый і насельніцтва, а ў неабходных выпадках выкарыстаць усе прадугледжаныя заканадаўствам меры ўздзеяння да неплацельшчыкаў. Дырэктару Беларускага цэментнага завода У. А. Кісялёву, дырэктарам раённага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі П. А. Шаўцову і сельскага жыллёва-камунальнага камбіната М. М. Мамонаву да 1 верасня 2000 года правесці рэжымную наладку і выпрабаванні цеплавых сетак, зыходзячы з аналізу іх работы за папярэдні ацяпляльны перыяд.

Начальнік упраўлення інвестыцый і капітальнага будаўніцтва райвыканкама В. С. Дударук абавязаны завяршыць перавод кацельні пасёлка Сялецкае на спальванне мазуту ў тэрмін да 1 верасня 2000 года.

Дырэктар райпалівазбыту Л. І. Раманава абавязана стварыць брыгаду па нарыхтоўцы дроў і арганізаваць яе работу, а таксама забяспечыць неабходнай колькасцю паліва насельніцтва раёна і камунальна-бытавых спажыўцоў.

Старшыням сельскіх выканаўчых камітэтаў, кіраўнікам райпа, камбіната бытавога абслугоўвання, раённага вузла паштовай сувязі, раённага вузла электрычнай сувязі, райбальніцы, аддзелаў адукацыі і культуры райвыканкама да пачатку ацяпляльнага сезону забяспечыць завоз мясцовых відаў паліва ў падведамасныя ўстановы і структурныя падраздзяленні.

Дырэктару раёна газазабеспячэння А. А. Ермакову забяспечыць бесперабойны завоз звадкаванага газу для патрэб насельніцтва.

Старшыні сельскіх выканаўчых камітэтаў, загадчыкі аддзелаў адукацыі і культуры, кіраўнікі калгасаў, райбальніцы абавязаны ў тэрмін да 1 кастрычніка 2000 года прыняць меры па падрыхтоўцы і рамонту аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння.

Загадчыца фінансавага аддзела райвыканкама С. І. Каратцова павінна знайсці фінансавыя рэсурсы і выдзеліць іх бюджэтным арганізацыям для набыцця неабходнай колькасці паліва, падрыхтоўкі і рамонту аб'ектаў да зімы, прыняць меры па безумоўнаму пагашэнню запазычанасці бюджэтных арганізацый за атрыманыя камунальныя паслугі, цвёрдае паліва ад райпалівазбыту і розніцы ў кошце на паліва, рэалізаванага насельніцтву, забяспечыць пагашэнне запазычанасці за энерганосьбіты і цвёрдае паліва прадпрыемстваў і ўстаноў, якія фінансуюцца з бюджэта, у тым ліку шляхам правядзення ўзаемаразлікаў.

Створана аператыўная група па каардынацыі падрыхтоўчых работ да прадстаячага ацяпляльнага сезону, якую ўзначальвае М. Ф. Чэпікаў.

Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскладзен на намесніка старшыні райвыканкама М. Ф. Чэпікава, загадчыка жыллёва-камунальнага аддзела райвыканкама І. В. Багданава.

Ход выканання рашэння райвыканкама будзе разгледжаны ў верасні 2000 года.



*Ужо больш двух дзесяткаў гадоў працуе ў камбінаце бытавога абслугоўвання насельніцтва Т. В. Сіманенка. Прыйшла яна сюды на пасаду сакратара-машыністкі. З энтузіязмам прыступіла да выканання сваіх абавязкаў. Яе стараннасць, працавітасць не засталіся незаўважанымі. Сёння Таццяна Васільеўна – інспектар аддзела кадраў. Спраўляецца жанчына і з гэтай справай. Хаця і не звязана Т. Сіманенка з выкананнем планаў, якія даводзяцца іх прадпрыемству, але яе работа таксама вельмі патрэбная, важная. Кіраўніцтва райбыткамбіната задаволена яе адносінамі да выканання службовых абавязкаў. Таццяну Васільеўну цэняць як добрага спецыяліста. І яна імкнецца апраўдваць давер людзей.*

***На здымку: Таццяна СІМАНЕНКА.***
***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

## *Дапамога дзецям-сіротам*

*Праблемы школы-інтэрната для дзяцей-сірот шмат разоў абмяркоўваліся на розных узроўнях. І вось голас дырэкцыі яе, як кажуць, пачулі. Сёлета для гэтай навучальнай установы абласным упраўленнем адукацыі быў набыт аўтобус на 20 месц. Гэта зняло праблему падвозу прадуктаў харчавання для выхаванцаў, перавозкі рабят на адпачынак і г.д. Паклапаціліся тут і аб прачках – купілі пральную машыну.*

*Шчыра ўдзячны адміністрацыя школы і дзеці-сіроты замежным гасцям, якія ў апошні час сталі часта наведвацца да іх. Так, італьянцы падарылі для патрэб школы-інтэрната 2 халадзільнікі, перадалі некаторую суму грошай на набыццё абутку.*

*Цікавіліся абстаноўкай у школе дэлегацыі з Бельгіі і Германіі. Хаця, варта адзначыць, гуманітарныя пасылкі з адзеннем з Германіі сюды паступалі раней. Цяпер нямецкія сябры плануюць распрацаваць спецыяльны праект супрацоўніцтва.*

***Ул. інф.***

# ВЫНІКІ СПАБОРНІЦТВА НА СЯЎБЕ

Раённы выканаўчы камітэт разгледзеў вынікі спаборніцтва за своечасовае і якаснае правядзенне веснавой сяўбы ў калгасах у 2000 годзе.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод калгасаў прызнаны калгасы "Парыжская камуна", "Дуброва", "Прагрэс", дзе ў аптымальныя агратэхнічныя тэрміны праведзена яравая сяўба на плошчы адпаведна 957, 1330, 1130 гектараў. Калектыў калгаса "Парыжская камуна" прэміраваны грашовай прэміяй у размеры 40 мінімальных зарплат, калектыў калгаса "Дуброва" – у размеры 30 мінімальных зарплат, калектыў калгаса "Прагрэс" – 20 мінімальных зарплат.

Кіраўнікі калгасаў-пераможцаў "Парыжская камуна" ( старшыня А. М. Міхеенка), "Дуброва" (У. М. Казлоў), "Прагрэс" (Ф. А. Жукаў) прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры адпаведна 10, 8 і 6 мінімальных зарплат.

Адзначана станоўчая работа па арганізаванаму правядзенню веснавой сяўбы калгасаў "Радзіма", "Смолькі", "Новы быт".

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на ўнясенні вадкіх мінеральных угнаенняў, прызнаны: Васіль Васільевіч Фёдараў з калгаса "Прагрэс", які на трактары МТЗ-80 з ОП-2000 унёс угнаенні на плошчы 1143 гектары; Міхаіл Фёдаравіч Цукроў з ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія", які на трактары МТЗ-80 з ОТМ 2-3 унёс угнаенні на плошчы 898 гектараў; Уладзімір Мікалаевіч Рываненка з калгаса "Парыжская камуна", які на трактары МТЗ-80 з ОП-2000 унёс угнаенні на плошчы 870 гектараў.

В. В. Фёдараў, М. Ф. Цукроў, У. М. Рываненка прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры адпаведна 6, 5 і 4 мінімальных зарплат.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на ўнясенні цвёрдых мінеральных угнаенняў, прызнаны: Мікалай Уладзіміравіч Герасічкін з калгаса "Радзіма", які ўнёс на трактары МТЗ-82 з МВУ-5 угнаенні на плошчы 1260 гектараў, Сяргей Дзмітрыевіч Папкоў з калгаса "Дуброва", які ўнёс на трактары МТЗ-82 з РУМ-6 угнаенні на плошчы 1109 гектараў, Уладзімір Віктаравіч Бляяеў з калгаса "Ленінскі шлях", які ўнёс на трактары МТЗ-82 з МВУ-6 угнаенні на плошчы 1024 гектары.

Механізатары М. У. Герасічкін, С.Д. Папкоў, У. В. Бляяеў прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры адпаведна 6, 5 і 4 мінімальных зарплат.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на асноўнай апрацоўцы глебы агрэгатам КЧ-5,1, прызнаны: Мікалай Ціханавіч Коўган з калгаса імя Карла Маркса, які на трактары К-701 з КЧ-5,1 апрацаваў 560 гектараў; Уладзімір Іванавіч Раздзёрын з калгаса "Прагрэс", які на трактары К-701 з КЧ-5,1 апрацаваў 530 гектараў; Вячаслаў Віктаравіч Балдуеў з калгаса "Дуброва", які на трактары Т-150 з КЧ-5,1 апрацаваў 478 гектараў.

Механізатары М. Ц. Коўган, У. І. Раздзёрын, В. В. Балдуеў прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры адпаведна 6, 5 і 4 мінімальных зарплат.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на асноўнай апрацоўцы глебы агрэгатамі КПС-4, КПС-6, прызнаны: Мікалай Іванавіч Сафронаў з калгаса імя Калініна, які на трактары Т-150 з КПС-4 апрацаваў 450 гектараў, Міхаіл Антонавіч Елісеенка з калгаса "Дуброва", які на трактары К-701 з КПС-6 апрацаваў 655 гектараў; Мікалай Анатольевіч Ісаенка з калгаса "Новы быт", які на трактары МТЗ-1221 з КПС-4 апрацаваў 429 гектараў.

Механізатары М. І. Сафронаў, М. А. Елісеенка, М. А. Ісаенка прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры 6, 5 і 4 мінімальных зарплат.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на перадпасяўной апрацоўцы глебы, прызнаны: Мікалай Міхайлавіч Шунькін з калгаса "Дуброва", Сяргей Сяргеевіч Зенянкоў з калгаса "Радзіма", Леанід Віктаравіч Раздзёрын з калгаса "Прагрэс", якія падрыхтавалі на трактарах К-701 з АКШ-7,2 адпаведна 792, 750 і 723 гектары; Іван Іванавіч Раўнягін з калгаса імя Калініна, Андрэй Аляксандравіч Такайчук з калгаса "Ленінскі шлях", Анатоль Аляксеевіч Лахцікаў з калгаса "Парыжская камуна", якія падрыхтавалі на трактарах МТЗ з АКШ-3,6 адпаведна 710, 397 і 350 гектараў.

Механізатары М. М. Шунькін, І. І. Раўнягін прэміраваны ў размеры 6 мінімальных зарплат, С. С. Зенянкоў, А. А. Такайчук у размеры 5 мінімальных зарплат, Л. В. Раздзёрын, А. А. Лахцікаў у размеры 4 мінімальных зарплат.

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод механізатараў, занятых на сяўбе яравых культур у аптымальныя тэрміны, прызнаны Віталь Уладзіміравіч Емяльянцаў з калгаса "Парыжская камуна", які на трактары МТЗ-82 з СПУ-6 засеяў 700 гектараў, Міхаіл Іванавіч Лебедзеў з калгаса імя Калініна, які на трактары МТЗ-82 з СЗУ-3,6 засеяў 560 гектараў, Аляксандр Мікалаевіч Міхальчанка з калгаса "Кранштат", які на трактары МТЗ-82 з СПУ-4 засеяў 340 гектараў.

Механізатары В. У. Емяльянцаў, М. І. Лебедзеў А. М. Міхальчанка прэміраваны грашовымі прэміямі ў размеры адпаведна 6, 5 і 4 мінімальных зарплат.

Прызнаны пераможцамі раённага спаборніцтва сярод шэфскіх арганізацый і прадпрыемстваў горада па аказанню своечасовай дапамогі калгасам у правядзенні сельскагаспадарчых работ Беларускі цэментны завод, ААТ "Касцюковіцкі леспрамгас", ДРБУ-130, якія выканалі найбольшыя аб'ёмы работ.

Калектыў Беларускага цэментнага завода прэміраваны грашовай прэміяй у размеры 30 мінімальных зарплат, ААТ "Касцюковіцкі леспрамгас" – 25 мінімальных зарплат, ДРБУ-130 – 20 мінімальных зарплат.

Пераможцы раённага спаборніцтва вызвалены ад уплаты падаходнага падатку з сум прэмій.

